


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 45 (871) ГОД XVII БЕЛАСТОК 5 ЛІСТАПАДА 1972 г. ЦАНА 60 гр.


## НАРОДНЫ ПАЭТ БЕЛАРУСІ

(ДА 90-ГОДДЗЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА).

Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, нарадзіўся 3 лістапада 1882 года, памёр 13 жніўня 1956 года) — класік беларускай літаратуры, буйнейшы мастак слова (паэт, празаік, драматург і публіцыст). Яго творы карыстаюцца велізарнай папулярнасцю сярод шматмільённага і шматнацыянальнага чытача Савецкага Саюза. Але творы народнага паэта Беларусі вядомы не толькі савецкаму чытачу: перакладзеныя на замежныя мовы, яны ўзбагацілі тым самым сусветную культуру.

Творчасць Якуба Коласа — яркая старонка ў мастацкім развіцці беларускага народа. Разам з выдатным беларускім паэтам — Янкам Купалам Якуб Колас закладваў першыя цагліны ў вялікі гмах сучаснай беларускай літаратуры. Сіла яго мастацкага слова — у глыбокай народнасці і рэалізме, у патрыятызме і інтэрнацыяналізме, у непаўторнай нацыянальнай форме.

Каля сямідзесяці гадоў таму назад упершыню прагучэлі цудоўныя вершы Якуба Коласа. Быў гэта час, калі ў царскай Расіі пачалася першая буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, калі, па словах У. І. Леніна, дрэмлючая Расія ператваралася ў Расію рэвалюцыйнага пралетарыяту і рэвалюцыйнага народу. Менавіта ў гэты перыяд Якуб Колас выступіў як пясняр прыгнечаных і эксплуатуемых працоўных мас Беларусі, як паэтычны выразнік іх дум і спадзяванняў, як адзін з стваральнікаў рэвалюцыйна-дэмакратычнай беларускай літаратуры. З вялікай сілай эмацыянальнага ўздзеяння адлюстраваў ён дарэвалюцыйнае жыццё беларускага народа, паказаў страшэнную карціну яго сацыяльна-палітычнага і нацыянальнага бяспраўя ў часы царызму.

У яго глыбока рэалістычных і высокамастацкіх творах выказаны думкі і пачуцці, пажаданні і патрабаванні шырокіх дэмакратычных мас, якія ў рэвалюцыі 1905 — 1907 г.г. падняліся на барацьбу з светам зла і няспраўядлівасці, на барацьбу за свае нацыянальныя і сацыяльныя правы.

Гарачай сыноўняй любоўю кахае паэт сваю родную Беларусь, чулліва апявае яе цудоўную прыроду: першабытныя лясы, паўнаводныя рэкі і зялёныя лугі, услаўляе яе працоўны народ. Як паэт-патрыёт і рэвалюцыянер, якога царскі ўрад схаваў у турму за вольналюбівыя вершы, Якуб Колас цвёрда верыў, што для беларускага народа, для чалавека-працаўніка прыйдуць лепшыя часы, што эпоха чорнай рэакцыі, якая наступіла пасля падаўлення рэвалюцыі 1905—1907 г.г. у Расіі, зменіцца эпохай свабоды і шчасця для людзей.

Побач з вершамі, празаічнымі і вершаванымі апавяданнямі, Якуб Колас у дарэвалюцыйны час прыступае да напісання шырокіх ліра-эпічных палотнішчаў-паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка», якія былі закончаны ў першыя гады пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэтыя рама-

Працяг на стар.4



*Дом, у якім нарадзіўся Якуб Колас. Вёска Акінчыцы Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці.*




## "ТРЫБУНАЛ" ў беластоцкім тэатры

З дырэктарам беластоцкага тэатра БРАНІСЛАВАМ ОРЛІЧАМ на старонках нашага тэатра сустракаемся упершыню. Але аб працы тэатра, якім дырэктар Орліч кіруе ад 1967 года, інфармуем чытачоў пастаянна.

Сённяшнюю непасрэдную нашу сустрэчу з дырэктарам мы хочам прысвяціць новаму цікаваму тэатральнаму сезону ў беластоцкім тэатры, які восьужо пачаўся ад восені. Цікавы надта рэпертуар прадстаўляе наш тэатр на новы культурны год. У ім вялікія творы польскай і рускай літаратуры, а таксама п'еса сучаснага беларускага драматурга Андрэя Макаёнка. А ўсё для адзначэння 50-годдзя СССР.

*— Мо і пачнем, таварыш дырэктар, ад «Трыбуналу» Андрэя Макаёнка. Як дайшло да ўвядзення яе ў ваш рэпертуар?*

— Мы заўчасу рыхтаваліся да адзначэння 50-годдзя СССР. Шукалі пазіцый з рускай і савецкай літаратуры для пастаноўкі ў нашым тэатры. Так склалася, што я і літаратурны наш кіраўнік пабывалі ў Гродне вясной г.г. на святкаванні 25-годдзя іхняга драматычнага тэатра. І там дапытваліся ў нашых сяброў пра беларускі тэатральны рэпертуар. Яны нам параілі «Трыбунал». Спецыяльна для нашага тэатра пераклаў п'есу Лешак Пятроўскі — наш літаратурны кіраўнік. Будзе гэта першая беларуская п'еса, пастаўленая ў нашым тэатры. А ўвогуле «Трыбунал» упершыню ў Польшчы будзе ставіцца ў Беластоку.

*— Калі прэм'ера?*

Працяг на стар.4



## ВЯЛІКІ КОНКУРС




### ПРАВІЛЫ

§ 1. Арганізатарамі Вялікага конкурсу «Што ведаеш аб Савецкім Саюзе?» з'яўляюцца Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя штотыднёвіка «Ніва».

§ 2. У Вялікім конкурсе «Што ведаеш аб Савецкім Саюзе?» могуць прымаць удзел усе члены БГКТ, прыхільнікі нашай арганізацыі, рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя, студэнты, вучні і няшкольная моладзь.

§ 3. Арганізатары прызначаюць пераможцам у Вялікім конкурсе рэчавыя ўзнагароды: фотаапарат, транзістарны радыёпрыёмнік, ручны гадзіннік, сувеніры і кніжныя ўзнагароды агульнай вартасцю ў 6 (шэсць) тысяч злотых.

§ 4. Конкурс будзе працягвацца ад месяца лістапада 1972 года да месяца сакавіка 1973 года. Складаецца ён з двух этапаў:

першага — пісьмовага;

другога — вуснага.

У першым этапе трэба будзе даць пісьмовыя адказы на пытанні, змешчаныя ў «Ніве». Адказы неабходна даслаць у пісьме да 15 сакавіка 1973 года па адрасу: Redakcja „Niwy", Białystok, ul. Wesołowskiego 1 з надпісам: «Вялікі конкурс». У пісьме трэба падаць сваё імя, прозвішча і адрас. Сярод дасланых пісьмы журы, скліканае арганізатарамі, установіць тых, хто даў найболей правільных адказаў, і усіх іх арганізатары запросяць на вусныя эліміндцыі. Вусныя элімінацыі адбудуцца 8 красавіка 1973 года.

У часе вусных элімінацый журы выявіць пераможцаў, а прадстаўнікі арганізатараў Вялікага конкурсу ўручаць ім прызыныя адпаведна да здабытага месца ўзнагароды.

§ 5. Пытанні, на якія трэба будзе адказаць у пісьме, апублікуе «Ніва». Адказы на пісьмовыя пытанні і на пытанні, што будуць зададзены ў часе вусных элімінацый, можна будзе знайсці пры пільным і сістэматычным чытанні артыкулаў у «Ніве», прысвечаных СССР, а таксама ў савецкіх і польскіх газетах, часопісах і кніжных выданнях.

**Арганізатары Вялікага конкурсу ГП БГКТ і «Ніва»**



# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 166

* ✲ *

Нам простых праўд,
нам лёгкіх праўд
не трэба.
І слова можа быць,
і таямнічасць, і загадка.
І верш не коціцца у сшытак
круглым хлебам,
пахучым,
цёплым,
гладкім.
І не таму ён ёсць,
што хтосьці нас натхняе
дакладам,
дырэктывай
ці загадам,
заўсёды ён з крыніц,
з тых вытакаў у краю,
якім імя: бяда і радасць.
І ёсць ён хлебам горкім і салодкім,
бо ў ім сляза цалуецца з усмешкай.
О верш! — маёй наіўнасці паводка,
у край ілюзій мая сцежка.
Шукаем вечнай праўды без карысці,
цярністым шляхам
нам ісці прывычна.
Паэт і верш — у вечным сказе ісцін —
крывы пытальнік,
просты клічнік.

*Алесь Барскі*

## ШЧАСЦЕ

Як многа
крыецца
за словам
шчасце.
Шчасце
гэта
вясна,
птушкі,
кветкі...
Гэта
твая
ўсмешка...
людзі
добрыя...
вясёлы
дзень...
пяцёрка
ў школе.
Шчасце
гэта
вельмі многа
і мала
адначасова.
Няма
слова
такога,
якім
можна
шчасце
назваць.
Бо шчасце
гэта
ўсё добрае.
А добрага
часам
многа,
а
часам
мала.

**Ірэна Баравік**

## ШУКАННЕ СЭНСУ

*Ёсць дрэва якое плача*
*Ёсць птушка якая моліцца*
*Ёсць звер які чуе смерць*
*Ёсць чалавек які пяе песню.*

*А можа ўсё інача́й*

*Ёсць чалавек які моліцца*
*Ёсць звер які плача*
*Ёсць птушка якая чуе смерць,*
*Ёсць дрэва якое пяе песню.*

*А можа ўсё разам*

*Ёсць чалавек які*
*плача*
*пяе песню*
*моліцца*
*і ўмірае*

*Не гэта ж страшна*

*Чалавек заўсёды шукае сэнсу*
*Свайго існавання.*

*Ул. Гайдук*





*У літаратурным гуртку бельскага беларускага ліцэя.*
*Фота Цаф — Р. Сянько*

* ✲ *

*Зноў чаромха ў квецені (прышла вясна)*
*Зноў чаромха ў песні (як дзяўчына)*
*Зноў чаромха ап'янелая (не плач)*
*Зноў чаромха вабіць (глянь вачыма)*

*Белы цвет (красы тваёй шкада)*
*Белы цвет (хвіліначку паслухай)*
*Белы цвет (і ціхі шэпт бывай)*
*Белы цвет, Божа! (табе клянуся)*

*Уладзімір Гайдук*

## ЗБАЖЫНКА

Мару аб збажынцы ў аляксандраўскім палетку, учараванай у словы мае напісаныя... Але словы, бы камені. Кладуцца яны то ў апавяданне пра выпадак нешчаслівы, то ў роспач валошкі васільковай, пакінутай ветрам асеннім, то ва ўрачыстае жыццё Супруна-пастуха, якому свет з балячкамі гарадоў зайздросціць павінен; іншы раз склалі вобраз святы Кіры-пані, то зноў годнасць нябесную Белавежы, харавства некранутага каралевы, або сум хаты дзяцінства ці пакінутасць ліп старэючых у Барсуковіне, у айчыне пекнаты і цішы.

У аляксандраўскім палетку, на загоне бацькоўскім пачуццяў маіх, збажынка.
Адзінокая, як жыццё.
Ціхая, як мудрасць.
Пахіленая, як лёс.
Зялёная, як свет.

**Сакрат Яновіч**



## НА СХОДКАХ ЧАСУ

Жыцце
свэю міерою
вылічыло час,
шагі
і стук сэрця.
✲
Забувают помалу
о своюм існовані.
Твар —
гісторыя жыцця,
а работа
выдруковала на далонях
кроніку,
которэйі нэхто нэ чытае.
Отуляны імглою
— Очы —
догорают помалу.
На волосы опав
попэл
гаснучого жыцця.
✲
Сэрце —
нэ чуе тэпла
восковых свечок,
йіх дым,
так як і жыцце,
розплывэцця —
одыйдэ.

**Ваня Кірызюк**

## ДОЖДЖ ЗА АКНОМ

Цёмна,
і неба засланілі
сівыя, нефігурныя
хмары.
У вагоне цёпла,
прыемна,
цікавая гутарка.
Аднак позірк мой
кіруецца
паволі
з задумай
у вакно.
Перад вачыма
агеньчыкі,
празрыстыя
кроплі дажджу
на фоне
выглянуўшага
з-за воблака
тоненькага месяца.
Дождж бубніць,
і ў такт яму
на кані зорным
пранеслася
маланка.
Няспынна
ідуць мінуты,
безустанку
плача свет,
а мой позірк
утапіўся
у кроплях
дажджу
на акне.

*Ніна Гаўрылюк*





*Ганна Цыганчук*

* ✲ *

Ноч зялёная Івана —
ноч Купалы

дрэвы мускулы свае павыгіналі
маладым бушуюць хларафілам

толькі гэтая астатняя хвіліна

покуль месяц не падпаліць хларафіла
нізка-найніжэй нада мною пахіліліся.

*З польскай мовы пераклаў Я. Чыквін*







## Папулярызацыя ведаў аб СССР

Улічваючы праграму дзейнасці ГП БГКТ, гарадскі аддзел намеціў план на бліжэйшы час, які датычыць адзначэння 50-годдзя СССР і будзе рэалізавацца на працягу лістапада-снежня 1973 года як праграма дзейнасці клуба.

У бліжэйшы час, гэта значыць, 4 лістапада, адбудзецца вечар, прысвечаны 90-ай гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа. Кожны месяц будуць праводзіцца гутаркі і лекцыі на тэму палітычных, эканамічных, культурных і гаспадарчых дасягненняў Савецкага Саюза. Многа месца ў іх адводзіцца гаспадарцы, культуры, літаратуры і мастацтву БССР. Раз у месяц будуць дэманстравацца савецкія кінафільмы. У канцы лютага або ў пачатку сакавіка адбудзецца конкурс ведаў пад загалоўкам «Што ведаеш аб СССР».

Апрача таго, раз у месяц будуць адбывацца літаратурныя вечары, прысвечаныя беларускай савецкай паэзіі, вечарыны савецкай музыкі, намагаемся арганізаваць дэкламатарскі конкурс, сустрэчы з людзьмі, якія пабывалі ў СССР — пісьмовыя ўспаміны аб пабыўцы, сустрэчы з былымі студэнтамі інстытутаў Савецкага Саюза, калі будзе магчымасць, разам з ТППР-ам наладзім сустрэчу з рэдактарамі часопісаў «Пшыязнь» і «Край Рад».

На працягу года ў выставачным салоне, а таксама ў вітрынах клуба будуць зроблены фотавыстаўкі і выстаўкі з жыцця СССР і БССР, выстаўка плакатаў савецкіх кінафільмаў. У сучасны момант у салоне дэманструецца выстаўка беларускай вышыўкі і тканін, а ў клубе зроблена «Панарама Мінска».

На літаратурных вечарынах публічнасць будзе знаёміцца з біяграфіямі беларускіх савецкіх пісьменнікаў, а таксама будзе мець магчымасць паслухаць іх творы ў выкананні маладых дэкламатараў клуба.

Вялікае значэнне ў святкаванні 50-годдзя СССР маюць кантакты нашага насельніцтва з прадпрыемствамі, школамі і інстытутамі ў Савецкім Саюзе. Дзеля таго заданне клуба — разам з моладдзю студэнцкай, працоўнай і школьнай наладзіць гэтыя кантакты, зрабіць абмен пажаданнямі з нагоды 50-годдзя ці іншых дзяржаўных урачыстасцей СССР, абмен вопытам у культурнай працы.

Да вышэй спамянутых мерапрыемстваў трэба яшчэ дадаць, што кожны месяц у нашым клубе будзе сустракацца наймалодшае пакаленне ва ўзросце ад 3 год, каб паглядзець каляровыя кінафільмы, паслухаць беларускія байкі, развучыць беларускія дзіцячыя вершы і песні і пагуляць пад гармонік ці піяніна.

Не забыўшыся аб старэйшых людзях, асабліва пенсіянерах, два разы ў месяц у будні дзень будуць праведзены вечарыны цікавай кніжкі (маю на ўвазе беларускую паэзію і прозу), спалучаныя з музыкай.

Як у папярэдніх гадах, так і ў гэтым, раз у месяц будуць адбывацца сустрэчы з моладдзю сярэдніх школ, на якіх сярод моладзі будуць распаўсюджвацца веды аб Савецкім Саюзе і сваімі сіламі вучні будуць падрыхтоўваць мастацкую праграму — вершы і песні. У сучасны момант у клубе рыхтуе праграму моладзь IV агульнаадукацыйнага ліцэя, якая сустрэнецца ў лістападзе з моладдзю Малочнага тэхнікума.

Апрача вышэй адзначаных мерапрыемстваў, гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку намагаецца рэактываваць харавы калектыў, узбагачаючы яго танцавальнай групай. І тут вялікая роля выпадае іменна для нашай моладзі. З размоў, праведзеных апошнім часам з моладдзю, вынікае не вельмі аптымістычны настрой. Значная колькасць нашай моладзі ўсё сваё зацікаўленне кіруе толькі на танцавальныя вечарыны.

Патрабаваць ад таварыства і клуба танцавальных вечарын — гэта яшчэ не ўсё. Трэба ўнесці свой канкрэтны ўклад у грамадскую працу, дзеля дабра ўсіх членаў, сімпатыкаў і дзеля асабістай сатысфакцыі.

*Зося Стаськевіч*
*старшы інструктар ГП БГКТ*



*З. Стаськевіч (злева) і сакратар ВП ТППР З. Трыбульская ў клубе БГКТ на Варшаўскай з цікавасцю перагортваюць новы нумар «Краю Рад».*
*Фота ЦАФ — П. Савіцкі*

## ФАЛЬКЛОР

### СЯМЕЙНАЯ

Moderato mf

Пе-це, лю-дзі, га-рэ-лі-цу, а вы, гу-сі, во-ду. За-ля-це-ця, бе-лы гу-сі, аж да май-го ро-ду. ро-ду.

*Пеце, людзі, гарэліцу, а вы, гусі, воду.*
*Заляцеце, белы гусі, аж да майго роду.*
*Заляцеце, белы гусі, аж да майго роду.*
*Ні кажэце, белы гусі, што я там гарую,*
*А скажэця, белы гусі, што я тут панyю.*
*А скажэця, белы гусі, што я тут панyю.*

Ад Ніны Шупіцы, 1926 г. нараджэння, вёска Кнышэвічы, грамадская рада Бабікі, пав. Саколка, запісаў 7 чэрвеня 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

БЫЛІ, БАЧЫЛІ, БУДЗЕМ ПРЫМЯНЯЦЬ

## З ПАЕЗДКІ Ў КАЎНАС

Нашы гарцэры нядаўна пабывалі ў Каўнасе і Друскеніках на Літве.

— Што бачылі вы там і што асабліва можа прыгадзіцца ў працы нашай гарцэрскай арганізацыі? — запыталіся мы ў Барбары Лявіцкай, каменданта гуфца ЗГП г. Беластока.

— Бачылі вельмі многа. Гаспадары зрабілі ўсё, каб мы маглі пазнаёміцца даволі шырока з працай піянерскай арганізацыі, а з другога боку, каб паглядзець іх краіну, пазнаёміцца са сталіцай, музеямі.

Асабліва зацікавіла нас праца Палаца піянераў імя Гагарына ў Каўнасе. Існуе тут шмат спецыялістычных дружын і кабінетаў. Некаторыя, такія ж, як і ў нас, некаторыя — вельмі арыгінальныя. Формы дзейнасці спецыялістычных дружын у Каўнасе вельмі багатыя і прыцягваюць моладзь.

Палац піянераў у Каўнасе не змяшчае ўсяе моладзі горада. Справа тут вырашаецца інакш. Напрыклад, у палацы існуе кабінет інтэрнацыянальнага выхавання. Паколькі колькасць месц абмежавана, кожная школа тыпуе сюды па двое старэйшых піянераў. Іх заданне — пераносіць у сваю школу ўсё тое, што адбываецца ў кабінеце, і гэта мае быць не толькі справаздача, але вядзенне такіх жа заняткаў у клубах інтэрнацыянальнага выхавання, якія існуюць пры школах.

Піянеры ў кабінеце і клубах знаёмяцца з гарадамі, рэспублікамі і іншымі краінамі, а адначасова знаёмяць іншых са сваім горадам. Усё гэта адбываецца пры дапамозе апісанняў, альбомаў, фотавыставак, якія высылаюць яны піянерам іншых гарадоў ці краін. І калі едуць у даны горад ці мясцовасць на канікулы, дык аб ім ужо многа ведаюць самі. Там адбываюцца конкурсы, згадуй-згадулі і т.п., на аснове якіх піянеры кантралююць свае веды аб мясцовасці, а адначасова папаўняюць іх. Такі абмен існуе паміж паасобнымі дружынамі горада, раёна, вобласці і г.д.

Інтэрклубы, якія існуюць пры кожнай большай школе, і кабінет, на маю думку, вельмі добрая і цікавая форма сацыялістычнага выхавання.

Вельмі спадабалася нашай дэлегацыі зала гісторыі піянерскай арганізацыі г. Каўнаса. З пэўнай зайздрасцю глядзела я на гэта. І не таму, што яна цудоўна выглядае, але таму, што аб дасягненнях гарцэрскай арганізацыі г. Беластока таксама многа гаворыцца, але нідзе гэтага не відаць. У нас жа таксама можна зрабіць выстаўку «ЗГП г. Беластока ад 1956 г.», напрыклад, у нейкай школе...

У Каўнасе існуюць два піянерскія харавыя калектывы, па 120 чалавек кожны. Можна б і ў нас арганізаваць хаця адзін гарцэрскі хор, але перад гэтым трэба знайсці памяшканне, дзе б ён мог праводзіць рэпетыцыі, купіць інструменты...

Пасля пабыўкі ў літоўскіх піянераў мы вырашылі:

У настаўніцкім школьным годзе шырэй разгарнуць працу «Дружын дружбы», абапіраючыся на формы і метады працы літоўскіх інтэрклубаў;

пашырыць культурную дзейнасць сярод моладзі і моладзі для асяроддзя (арганізаваць гарцэрскі хор, калектыў барабаншчыкаў і фанфарыстаў);

арганізаваць выстаўку «Дасягненні гарадской гарцэрскай арганізацыі ад 1956 г.»

*Запісаў А. Карпюк*

гатам і гасцям VII з'езду БГКТ прывітанні і пажаданні плённай нарады. Падкрэсліў ён, што наша арганізацыя на працягу апошніх трох год дабілася значных дасягненняў у сваёй статутовай дзейнасці, шмат увагі прысвяціла сваім гурткам, аддзелам і камісіям Галоўнага праўлення. Дастойны высокага прызнання таксама культурна-асветныя мерапрыемствы, конкурсы і фэстыны, якія рэгулярна праводзіць БГКТ.

Затым тав. З. Кнызяк выказаўся адносна некаторых праблем, якія былі закрануты ў справаздачным дакладзе VII з'езду, справаздачы Рэвізійнай камісіі і ў дыскусіі. Адносна Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы паведаміў ён, што дзяржаўныя органы прыйшлі да вываду аб неабходнасці перадаць сабраныя экспанаты пад апеку Акруговага музея ў Беластоку з захаваннем нагляду з боку БГКТ. У справах выхаваўчай дзейнасці нашага таварыства прамоўца адобрыў папярэднюю працу і канстатаваў патрэбу няспыннага ўдзелу БГКТ у рэалізацыі гаспадарчых заданняў для дабра нашай краіны і ўсяго народа. Неабходна таксама і ў далейшым абапірацца і пашыраць дзейнасць грамадскага актыву таварыства. Заўважыў ён таксама, што па меры сваіх магчымасцей дзяржава прызначае фінансавыя сродкі на дзейнасць БГКТ і не мае намеру іх абмяжоўваць. Аднак неабходна вельмі эканомна і мэтанакіравана іх выкарыстоўваць.

У заканчэнні свайго выступлення тав. З. Кнызяк выказаў упэўненасць, што як дагэтуль, так і ў будучыні БГКТ будзе імкнуцца як мага лепш выконваць сярод беларускай нацыянальнай меншасці сваю высакародную ролю для дабра Народнай Польшчы і сацыялістычнага будаўніцтва.

## ПРА БЛІЗКАЕ І ДАРАГОЕ СЭРЦУ

*(ВЫСТУПЛЕННЕ ЧЛЕНА ПРЭЗІДЫУМА БЕЛАСТОЦКАГА ПАВЯТОВАГА АДДЗЕЛА БГКТ НІНЫ ЦЫВАНЮК).*



— Рашэнні VI з'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі, іх пераўтварэнне ў жыццё, — сцвердзіла Ніна Цыванюк, — усё гэта нам блізкае і дарагое, як дарагая тэтая зямля, на якой мы нарадзіліся, як дарагое нам усё, што стварае народная ўлада ў Польшчы. Яны для нас таксама абавязваючыя і накіроўваючыя нашу дзейнасць, як і для ўсяго польскага народа, з якім мы супольна і паслядоўна іх выконваем.

Разам з узростам заможнасці і культуры быту павялічваецца запатрабаванне людзей на пашырэнне ведаў і культурны адпачынак. Таму неабходна ў большай, чым дагэтуль, меры знаёміць людзей з дакладамі і лекцыямі, беларускімі пісьменнікамі і мастацкай самадзейнасцю. Запатрабаванне ж на савецкія фільмы ў арыгінальнай версіі на Беласточчыне вельмі вялікае. Нашы гледачы высока цэняць савецкае кінамастацтва за яго прагрэсіўны змест і вялікія выхаваўчыя вартасці, крытычна адносяцца да фільмаў з капіталістычных краін, дзе на экране пануе ашуканства, грабёж і забойствы.

Н. Цыванюк падтрымала выказванні сваіх прадмоўцаў А. Іванюка і У. Паўлоўскага ў справе неабходнасці стварэння адпаведных умоваў для Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. «Сабраныя ў ім экспанаты з'яўляюцца каштоўнымі рэаліямі матэрыяльнай і духоўнай культуры нашых дзядоў і прадзедаў, — сказала яна, — і павінны яны служыць як факты з гісторыі народу і яго культуры для будучых пакаленняў».

У адносінах да перадачаў на беларускай мове Польскага радыё ў Беластоку Н. Цыванюк заўважыла, што ў іх знаходзіцца многа матэрыялу з жыцця вёсак і мястэчак усяго рэгіёну, але яны даступны толькі слухачам з горада Беластока. Таму неабходна, каб радыёвузлы таксама перадавалі гэтую праграму, яе трэба зрабіць даступнай шырокаму колу вясковых слухачоў.

Як і яе прадмоўцы, Н. Цыванюк выказала неабходнасць, каб ГП БГКТ мела свой аўтобус, даступны для самадзейных мастацкіх калектываў і для арганізавання экскурсій.

Гаворачы аб працы харавога калектыву ў Гарадку Беластоцкага павету, Н. Цыванюк паведаміла, што гарадоцкія харысты вымушаны цяпер праводзіць свае рэпетыцыі на калідоры грамадскага дома культуры або ў прыватных кватэрах, бо яны пазбаўлены адпаведнага памяшкання ў самым ГДК. Прасіла яна, каб дзяржаўныя ўстановы дапамаглі ў вырашэнні гэтай справы гарадоцкім самадзейнікам.

У заканчэнні свайго выступлення Н. Цыванюк звярнулася да прысутных на з'ездзе прадстаўнікоў органаў асветы, каб большай апекай і дапамогай акружыць тых настаўнікаў пачатковых і сярэдніх школаў, якія вядуць самадзейныя мастацкія калектывы пры гуртках БГКТ. Пры гэтым ад імя нашых самадзейнікаў выказала пажаданне ў адрас літаратараў «Белавежы», каб яны стваралі больш добрых п'есаў. (мг)

*Фота Цаф — П. Савіцкі*




# ГОРАД ЛЕНІНА

Вядома: найлягчэй пісаць аб тым, што бачыш упершыню. Бо нават да найпрыгажэйшага чалавек можа прывыкнуць і перастаць заўважаць яго прыгажосць. Можа кожны чалавек, але не ленінградзец. Паспрабуйце вы толькі не сказаць яму, што Ленінград — найпрыгажэйшы горад у свеце! Але праўда і тое, што хто толькі ступіць на яго зямлю, будзе запалонены яго хараством і веліччу.

Ленінград непадобны ні на адзін горад свету. Ляжыць ён на 101 выспе. І ленінградцы з дзяцінства прывыклі да вады, якая плыве ля самых іх дамоў у мностве рэк, рачулак і каналаў. Халодныя хвалі Балтыкі дабягаюць да ленінградскіх выспаў, дажджы і туманы нярэдка ахутваюць горад. А белыя ночы, хто бачыў белыя ночы ў Ленінградзе?..


*Зімовы палац.*

Шырокія праспекты, манументальныя будынкі гавораць аб тым, што горад адразу будаваўся на сталіцу. А паколькі мясцовасць была нізкая, забалочаная, дык Пётр I пастанавіў, што не будзе тут вельмі высокіх дамоў, прынамсі вышэйшых за шпіль Петрапаўлаўскай крэпасці. Пакуль што архітэктары ліміту Пятра не перакрочылі.

Усё гэта стварае своеасаблівае хараство горада, які раскінуў на берагах апранутай у гранітныя берагі Нявы свае строгія архітэктурныя ансамблі з сотнямі і сотнямі калон і статуй, з залатымі шпілямі, з багатымі музеямі і помнікамі.

Гледзячы на Ленінград, міжволі насоўваецца параўнанне: ён — як чалавек, з выгляду спакойны, флегматычны, магчыма, нават крыху суровы, а вось душу мае багацейшую і ўнутраны свет вялікі; пазнаеш яго — і пачынае ён цябе здзіўляць, прыцягваць, быццам магнітам, і не паспееш нават заўважыць, як пакахаеш яго.

Тут, у Ленінградзе, амаль кожны дом, кожны мост — гэта жывая гісторыя, і кожны камень — нямы сведка вялікіх падзей. Гэта тут правадыр і настаўнік працоўных У. І. Ленін стварыў бальшавіцкую партыю, тут 25 кастрычніка 1917 года з трыбуны ў Смольным на ўвесь свет прагучалі ленінскія словы: «Рабочая і сялянская рэвалюцыя, аб неабходнасці якой увесь час гаварылі бальшавікі, звяршылася!»

Упершыню У. І. Ленін прыехаў у Пецярбург у верасні 1890 года. Тады ён дабіўся дазволу здаць экстэрнам экзамены за поўны курс юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. У Пецярбургу пражываў ён без перапынку ад 1893 да 1897 года. Нягледзячы на сваю маладосць, быў ён ужо тады сфарміраваўшымся высокаадукаваным марксістам.

Ссылка, эміграцыя, а ў канцы 1905 года, у самы разгар першай рускай рэвалюцыі Ленін ізноў прыязджае ў Пецярбург. Адсюль ён кіруе партыйнымі арганізацыямі ўсёй краіны, тут правадзіць сустрэчы з рабочымі; 13 ленінскіх артыкулаў, надрукаваных у газеце «Новая жизнь», акрэслілі тактыку барацьбы пралетарыяту. Хаваючыся ад шпіцляў, Ленін часта мяняў пашпарты, кватэры, некалькі разоў пераязджаў з Пецярбурга ў Фінляндыю, дзе мог знаходзіцца ў большай бяспецы, пакуль у 1907 годзе не вымушаны быў ізноў эміграваць.

З-за граніцы У. І. Ленін падтрымліваў трывалыя сувязі з бальшавіцкай партыяй і рабочым класам Расіі. Як толькі прыйшла вестка аб лютаўскай рэвалюцыі, ён стаў збірацца на радзіму. Больш месяца ён хадатайнічаў аб дазволе выезду ў Расію. А вечарам 3 красавіка 1917 года на пляцы ля Фінляндскага вакзала адбылася незабыўная сустрэча У. І. Леніна з піцерскімі рабочымі, рэвалюцыйнымі салдатамі і матросамі. Рабочыя ўзялі Леніна і паднялі яго на бранявік. З вежы браневіка Уладзімір Ільіч вітаў расійскі рэвалюцыйны пралетарыят і салдат, стаўшых на бок працоўнага народа, сваёй гістарычнай прамовай, якую закончыў палымяным заклікам: «Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя!» Сёння гістарычны пляц перад Фінляндскім вакзалам, на якім выступаў Ленін, названы яго імем. Над пляцам высіцца помнік правадыра, які стаіць на бранявіку.

1917—1918 г.г. — гэта быў перыяд найбольш бурнай дзейнасці Леніна ў рэвалюцыйным Петраградзе. Ізноў яму прыйшлося хавацца — цяпер ад Часовага ўрада. На станцыі Разліў, што знаходзіцца ў 34 км ад Ленінграда, недалёка ад былой руска-фінскай граніцы, і сёння можна ўбачыць ленінскі шалаш з галінак дрэў і сена, у якім у 1917 годзе жыў Ленін пад выглядам рабочага-касца. Тут на звычайным лясным пні напісаў ён не адну славутую працу. Шалаш і стог сена ля яго пастаянна аднаўляюцца. Побач стаіць гранітны шалаш з мемарыяльным надпісам, пабудаваны рабочымі Ленінграда ў 1927 годзе.

Ленінград носіць імя Леніна і называюць яго калыскай рэвалюцыі. Роўна 55 гадоў таму назад пад кіраўніцтвам вялікага Леніна ўпершыню ў свеце ўлада перайшла тут у рукі рабочых і сялян. Ленін... «Невысокая прысадзістая фігура... Пацёрты касцюм, крыху не па росту доўгія штаны. Нічога, што напамінала б куміра натоўпу, просты, каханы і шанаваны так, як, быць можа, кахалі і паважалі толькі нямногіх правадыроў у гісторыі». Гэтак пісаў аб Леніне вялікі сябра савецкага народа амерыканскі пісьменнік-камуніст Джон Рыд.

Ленінград настолькі цесна звязан з Леніным, што можна было б яго назваць велізарным музеем памятных ленінскіх месц. Ленінградцы чулліва берагаюць гэтыя святыя для іх месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю правадыра пралетарыяту. Сюды прыязджаюць таксама дзесяткі тысяч турыстаў, каб сваімі вачыма ўбачыць горад, дзе адбываліся падзеі, якія ўскалыхнулі светам.

*Тэкст і фота А. Чэчуга*


*Сюды прыязджаюць дзесяткі тысяч турыстаў. Ленінскі шалаш у Разліве.*

# КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### САЛАТЫ

**1. САЛАТ З СЕЛЕРАЎ З КАПЧОНЫМ ДОРШАМ.**

На салат трэба ўзяць 1 вялікі селер (30—40 дэкаў), 2 яблыкі, 25 дэкаў капчонага дорша (траскі), 1 кіслы агурок, соль, цукар, 1 жаўток, 15 дэкаў алею, лыжку гарчыцы (муштарды).

Звараны ў скуры селер абабраць, дробна нарэзаць. Таксама нарэзаць яблыка і агурок. Рыбу абабраць са скуры і выняць косці, нарэзаць. З жаўтка, алею і гарчыцы зрабіць маянез, заправіць ім салат. Вельмі смакуе такая салатка на вячэру. Падаваць з хлебам ці булкай.

**2. САЛАТ З БУЛЬБЫ І ПОРАЎ**

На 5 вялікіх бульбін трэба ўзяць 2 тоўстыя поры, 2 кансерваваныя агуркі, 1 яблыка, соль, 1 лыжку гарчыцы, 3 лыжкі алею або паўшклянкі смятаны.

Звараную ў мундзірах бульбу астудзіць, абабраць, нарэзаць. Поры ачысціць, дакладна вымыць, нарэзаць упоперак тонкім нажом. Агурок і яблыка сцерці на бурачанай тарцы, дадаючы разам з порамі да бульбы. Усё вымяшаць з гарчыцай і алеем або смятанай. Заправіць, падаваць з варанымі яечкамі і хлебам.

**3. САЛАТ З ВАЛАШЧЫНЫ**

На салат трэба ўзяць моркву, пятрушку, селер, сырую пору, кіслы агурок, яблыка, паўшклянкі алею, лыжку гарчыцы, адзін жаўток.

Звараную валашчыну і сырыя поры дробна нарэзаць. Агурок і яблыка таксама. Жаўток расцерці, уліваючы па кроплі алей, у канцы дадаць да соусу гарчыцу. Соус дадаць да салата, вымяшаць, заправіць па смаку соллю і цукрам.

**4. БУЛЬБЯНЫ САЛАТ З СЕЛЯДЦОМ**

На 2 селядцы трэба ўзяць 4 бульбіны сярэдняй велічыні, 2 кіслыя агуркі, 1 цыбуліну, 1 яблыка, соль, перац, 4 лыжкі алею, 1 лыжку гарчыцы.

Вымачаныя селядцы парэзаць на дробныя палоскі, зняўшы перад гэтым скурку з іх і выняўшы косці. Цыбулю абабраць, дробненька нарэзаць. Спалучыць разам усе прадукты, заліць алеем з гарчыцай, заправіць па смаку. Салат гэты трэба рабіць на некалькі гадзін перад падачай.

**5. САЛАТ З ФАСОЛІ**

На 25 дэкаў фасолі трэба ўзяць 1 кіслы агурок, 10 дэкаў цыбулі, 3 чайныя лыжкі алею, 2 чайныя лыжкі гарчыцы, соль, цукар, перац.

Сухую фасолю (найлепш дробненькую) памыць, намачыць начач у кіпячонай вадзе, варыць так, каб пад канец варэння вада цалкам выпарылася. Кіслы агурок дробна нарэзаць, вельмі дробна нарэзаць цыбулю. Алей вымяшаць з гарчыцай і атрыманым соусам паліць спалучаныя прадукты. Заправіць салат па смаку соллю, цукрам, а хто любіць, і перцам.

*Гаспадыня*




Праз мінут дваццаць Шэнкендорф апусціў рукі, прыслухаўся. У пакоі было ціха. За вокнамі, завешанымі шторамі з цяжкага аксаміту, глуха грукатала бамбёжка. Дзесьці сыпалася чарапіца, стукала, падаючы цэгла, абломкі.

Не запальваючы лямпу, Шэнкендорф намацаў свой бакал, бутэльку. Паднося чы да вуснаў шампанскае, ён выліў крыху віна на штаны і вылаяўся. «Спакойна, Франц! — сказаў ён сабе. — Не раскісаць!»

Толькі на хвіліну запаліў ён ліхтарык. Дзве нерухомыя бялявыя галавы... Фрыда і Лота былі мёртвыя. Гельмут ляжаў, скурчыўшыся, пад сталом.

— Ганц егаль крыг! — ціха сказаў гестапавец любімую сваю прымаўку. — Вайна ўсё спіша!

Скураны футляр з асколкамі ампул ён паклаў у кішэню. Тры ампулы з сінільнай кіслатой, чацвёртая — чацвёртую выпіў ён сам... Ніхто не павінен быў здагадацца аб яго ролі ў трагедыі, што разыгралася тут.

Дзейнічаючы па загадзя прадуманаму плану, Франц Шэнкендорф адсунуў сваё крэсла на ранейшае месца, да каміна, патушыў свечкі, паклаў у буфет свой прыбор.

У спальні жонкі ён дастаў з сейфа ў сцяне шкатулку з каштоўнасцямі, схаваў яе ў чамадан, пад камплект амерыканскай афіцэрскай формы, які атрымаў ад Геслера... «Бадай, час перапранууцца...»

Шчасце Франца Шэнкендорфа, што ён вывучыў англійскую мову, плаваючы сцюардам на акіянскім лайнеры, на «Брэмене»! Цяпер ён своечасова пойдзе ў падполле.

Зачыніўшы дзверы чорнага ходу, Шэнкендорф выйшаў у сад, расчыніў вароты гаража. Перадранішні ветрык гнаў вапнавы пыл і сажу па асфальтавай дарожцы.

Шэнкендорф падкінуў вязку ключоў на далоні. «Выкінуць? Яны ўжо не спатрэбяцца мне!» Нявесела ўсміхнуўшыся, ён усё ж апусціў ключы ў прасторную кішэню амерыканскага шыняля, кінуў чамадан у багажнік, сеў за руль чорнага «опеля». Зачыняючы дзверцы, прыслухаўся да грукату артылерыйскай кананады на ўскраіне горада, за ракой.

**5. КАНЕЦ КАРЫЧНЕВАЙ ЧУМЫ**

Тульчынскі ўсё яшчэ сядзеў, абхапіўшы рукамі галаву, у крэсле, сярод бітага шкла і адбітай тынкоўкі, калі раніцай паднялася з бамбасховішча яго кватэрная гаспадыня з сынам Паульхенам.

Фрау Зінгер замітусілася, заохала, убачыўшы, у што ператварыла яе сталовую паветраная хваля. Спачатку яна кінулася падмятаць падлогу, убіраць смецце, але шчотка выпала з рук, калі позірк яе ўпаў на падрапаны твар кватаранта.

— Майн гот! У вас увесь твар у крыві! — залапатала яна.

— Дзе ваша жонка і кузен? Кажуць, бальшавікі ўжо ў горадзе! Што ж з намі будзе? Пра іх такое расказваюць!.. Майн гот! Я зусім забылася пра белыя флагі!

Фрау Зінгер мітусілася па пакоях, перабірала ў руках навалачкі, прасціны, старыя начныя кашулі.

— Вазьміце нашы прасціны, — сказаў Тульчынскі. — Можаце ўзяць усю нашу пасцельную бялізну.

Гаспадыня паўтарала словы ўдзячнасці. Адну прасціну яна парвала на шматкі, прывязала да разбітых рам. Аб'явіўшы такім чынам аб безагаворачнай сваёй капітуляцыі, фрау Зінгер адлупцавала заплакаўшага ад голаду Паульхена і зноў пачала наводзіць парадак у сталовай. Папраўляючы партрэт Гітлера на сцяне, які крыху пакасіўся, яна раптам пляснула сябе па лбе. Літаральна праз імгненне на сцяне замест партрэта фюрэра з'явіўся партрэт гера Зінгера, раённага кіраўніка генеральнай канфедэрацыі прафсаюзаў, які быў падвергнут у маі 1933 года «прэвентыўнаму арышту» і з таго часу бясследна знік. Тульчынскі ўсміхнуўся, заўважыўшы, што фрау Зінгер не выкінула фюрэра на памыйку, — не, пабегаўшы туды-сюды па кватэры, яна схавала партрэт на дно ніжняй паліцы камода — туды, дзе дванаццаць гадоў праляжала пад бялізнай і нафталінай акуратна загорнутая ў газету трыццаць трэцяга года фатаграфія гера Зінгера.

Тульчынскі зірнуў у акно. На вуліцы — ні душы. Нерухома вісяць белыя анучы на дамах. Здалёк даносіцца магутны злітны шум тысячасільных матораў. Узарваўшы цішыню, пралятае над дахамі тройка «ПО-2». Цьмяна блішчаць іх зашклёныя насы. І такія родныя зоркі на крылах...

— Калі вернуцца жонка і брат, — сказаў Тульчынскі гаспадыні, — скажыце, што я чакаю іх у савецкай камендатуры горада. Па рэчы мы прыедзем пазней, к вечару.

— Вы пойдзеце ў савецкую камендатуру?!

Давялося расказаць фрау Зінгер, што на працягу трох месяцаў яна, сама таго не падазраючы, хавала групу савецкіх разведчыкаў. Фрау Зінгер спачатку перапалохалася да смерці, такі прывычны быў страх...

— Праклятая палітыка! — усклікнула фрау Зінгер. — Спачатку яна адабрала ў мяне мужа... Які гэта быў чалавек!

«А потым, — у думках дадаў за яе Тульчынскі, — разлучыла з аднаногім

# ТРЫБУНА чытачоў

*Святкаванне 50-ай гадавіны ўтварэння СССР*

## УРАЧЫСТЫ СХОД

15 кастрычніка адбыўся ўрачысты сход членаў ЗБоВіД з Беласточчыны, які быў скліканы з нагоды святкавання 50-ай гадавіны ўтварэння СССР і прысвячаўся тэме супрацоўніцтва польскага грамадства з савецкімі партызанамі на Беласточчыне. Сход вёў старшыня Акруговага праўлення ЗБоВіД палкоўнік Ян Анацік. З дакладам выступіў палкоўнік Баляслаў Лукомскі, сакратар гістарычнай камісіі пры Акруговым праўленні ЗБоВіД. Пасля даклада адбылася дыскусія, у якой удзельнікі сходу падзяліліся сваімі успамінамі з ваеннага перыяду.

Варта адзначыць, што ўспаміны шматлікіх удзельнікаў руху Супраціўлення з часоў другой сусветнай вайны будуць падрыхтаваны гістарычнай камісіяй да публікацыі. Сабралася даволі багата запісаных успамінаў жыхароў нашага ваяводства. Паводле няпоўнага падліку, з савецкімі партызанамі супрацоўнічала 280 чалавек з Беласточчыны. Усе яны з'яўляюцца зараз актыўнымі членамі ЗБоВіД. (ця)




## В ШЫБЫ ДОШЧ ЗВОНІТ...

Енчаў десь віэтёр,
розчохраў бэрозу
а с лісці складаў
розплакану розу.
І в шыбы дошч звоніў...

Так пуозно было,
усіэ ўжэ спалі,
а когось нэсло
в той дошч, тыі далі...
Як в шыбы дошч звоніт!
Як звоніт... як звоніт...

І нуочка кульгава
закутана спала,
Чэрвоным языком
лекать пэрэстала
В шыбы
— так дошч,
так дошч,
так дошч...

Клеіліся очы,
співалі слёзамі.
Забыліся ночі
як з намі, як з намі...
А в шыбы
той дошч!

Колісь мы по лонці,
на босо в росі
— і далей, і далей...
Забыліся всі?
То в шыбы дошч...

Хтось верш стаў пісаті,
забыўся початку.
Хотіў штось сказаті,
замоўк на остатку.
Бо в шыбы дошч,
дошч звоніт осінні.

*Зося Сачко*

блоклейтэрам Шэрнерам. «Партайгеносе» Шэрнер, гэты нацысцкі дурань і флегматычны палюбоўнік, ужо ніколі не пастукае ў дзверы фрау Зінгер за гадзіну да аб'яўлення паветранай трывогі, не павітае сваю каханую бадзёрым «Хайль».

Праўда, пасля найскладанай калейдаскапічнай змены самых разнастайных пачуццяў фрау Зінгер нават узрадавалася: яе былыя кватаранты змогуць закінуць слоўца перад новымі ўладамі за бедную ўдаву закатаванага ў канцлагеры віднага прафсаюзнага функцыянера!

...Выходзячы з дому Тульчынскі ўбачыў на лесвіцы незнаёмага старога. Пакутуючы ад задышкі, стары з цяжкасцю падымаўся па прыступках. На ім быў новенькі пінжак з чужога пляча, афіцэрскія брыджы, але замест кашулі пад расшпіленым пінжаком віднелася брудная паласатая куртка з нагрудным «вінкелем» — нашыўкай зняволенага канцлагера.

Вочы старога, жывыя, гарачыя, глядзелі ўверх, міма Тульчынскага, з надзеяй і страхам.

— Скажыце, — спытаў ён у Тульчынскага, — хто жыве цяпер у кватэры нумар восем?

— Гер Зінгер?!

Чалавек здрыгануўся. У вачах яго мільганула здзіўленне, трывога.

— Так. Ці ж мяне яшчэ можна пазнаць?

— Я ведаю вас толькі па чутках і па старой фатаграфіі. Ідзіце наверх. Ваша жонка дома.

*(Працяг будзе)*

## ЖЫЛЛЁВЫ ПАСЁЛАК У ХАРОШЧЫ

Ужо 460 жыхароў Харошчы (Беластоцкі павет), што складае 30% усяго насельніцтва гэтага мястэчка, жыве ў будынках жыллёвага кааператыва і амаль столькі ж чакае кватэр. Яшчэ ў гэтым годзе новыя кватэры атрымаюць 44 сям'і. Наступны, ужо пяты «блёк», кааператыў перадасць у карыстанне ў сакавіку 1973 года. Адначасова жыллёвы пасёлак атрымае новыя пункты паслуг і пункт «Практычнай пані». Зараз у жыллёвым пасёлку парадак і чысціня. Многа папрацавалі тут самі жыхары пасёлка, у тым ліку дзеці і моладзь. Іх грамадская праца пры ўпарадкаванні пляцовак вакол будынкаў перавысіла суму 200 тысяч злотых.

Варта адзначыць, што ў будучыні, ад 1974 года пачаўшы, у Харошчы будзе распачата будова другога пасёлка пры вуліцах Міцкевіча і Дзяржынскага. Прадбачваецца тут пабудова трох будынкаў на 180 кватэр. (ця)

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

■ 11.X.72 г. у Орлі 86-гадовы Павел Амільяновіч, раптоўна выйшаўшы на вуліцу, трапіў пад матацыкл Мікалая Мартыновіча (28 год) з Бельска і ў выніку атрыманых траўмаў у той жа дзень памёр.

■ 13.X.72 г. у Юшкавым Грудзе Беластоцкага павету 62-гадовая Міхаліна Леўчук, пераходзячы праз вуліцу, трапіла пад самаход Станіслава Яновіча з ПГР Геранімова і была кантужана.

■ Самагоншчыкі. У будынках Аляксандра Каліноўскага (70 год) з Семяноўкі знойдзена 5 літраў самагонкі і апаратура. У будынках Ніны Тамашук (30 год) з Ласінкі знойдзена 60 літраў брагі. У Нарве быў затрыманы Іван Нікіцюк (44 гады) з Янова, які вёз 3 літры самагонкі.

## У МІХНОЎЦЫ

У Міхноўцы Гайнаўскага павету існуе сельскагаспадарчы гурток. Гурток невялікі. Мае дзве абмалотачныя машыны, пяць збожжавых сеўнікаў, два сеўнікі для штучных угнаенняў, дзве грабілкі, адну варочалку і іншыя падручныя машыны.

Старшынёй гэтага гуртка з'яўляецца Андрэй Матвеюк. Гэта дбайны старшыня. У яго ёсць таксама добры амлатовы Аляксандр Кузьма. Працуе ён у гэтым гуртку ўжо шосты год. Добра даглядае ён сваю машыну.

Гурток у Міхноўцы мае таксама бетанярку. Карыстаюцца ёю многія жыхары ваколіцы.

*А. К., Бяндзюга*




Дарагое Сэрцайка!

Мне 19 год. Жыву я на вёсцы і працую на гаспадарцы разам з бацькамі.

Ужо мінула больш месяца, як хлапец мой — Янэк, з якім хаджу я даўжэйшы час, пайшоў да войска. Служыць у горадзе, далёка ад нашай вёскі. Часта атрымоўваю ад яго пісьмы. Сумуе, хацеў бы спаткацца са мною як найхутчэй. Мне таксама цяжка без яго, але як кажуць, «служба не дружба».

Але вось у апошнім пісьме Янэк піша, што ўжо ў хуткім часе, а дакладней калі, то ён мне напіша, будзе ў іх прысяга. Піша, што гэта вялікае свята ў войску, асабліва для маладых салдат. У гэты дзень прыедуць да яго бацькі і калегі. Янэк просіць, каб абавязкова была я. Прызнаюся, цікавіць мяне, як адбываецца прысяга. Я яшчэ ніколі не бачыла. А галоўнае — спаткаюся з Янкам. Аднак не ведаю, ці выпадае мне паехаць? А калі так, што ўзяць з сабою, бо як даведалася я, на прысягу з пустымі рукамі не едуць. Чакаю, Сэрцайка, тваёй парады.

*Ліда з Беластоцкага павету*

Ліда! Безумоўна, паедзь! Напэўна ўцешыцца Янэк, калі яго, маладога салдата, сустрэне каханая дзяўчына з кветкамі ў руках. Раю спячы нейкі пірог або мясную патраву.

Жадаю мілага спаткання!

*Сэрцайка*

## ВЕСТКІ З ЛАСІНСКАЙ ГРАМАДЫ

Ласінская грамадская рада нарадовая будзе ліквідавана ў канцы гэтага года. Увойдзе яна ў склад гміны ў Нарве. Памяшканне ласінскай ГРН будзе выкарыстана на пункт аховы здароўя, які знаходзіцца там і цяпер, але займае толькі адзін пакой. Працуе тут Рамуальд Нарэль, які даязджае з Нарвы. Хваляць яго людзі, таму што з яго не толькі добры лекар, але таксама ветлівы і добры чалавек. А гэта вельмі істотная рыса чалавечага характару ў такой прафесіі. Дзякуючы намаганням лекара Рамуальда Нарэля пункт аховы здароўя ў Ласінцы будзе разбудаваны.

*

Ласінскі клуб «Руху» мае добрае памяшканне. Ёсць асобнае памяшканне для кіёску «Руху», які прадае ў месяц больш 20 тысяч папяросаў, шмат сціральных парашкоў і шмат спажывецкіх прадуктаў, якіх заўсёды не хапае. Клуб мае вялікую прыгожую залу са сцэнай і занавесам. На сцэне стаіць тэлевізар, які прыцягвае ў суботу і нядзелю шмат людзей. І ўсё было б добра, каб не працякаў у гэтай зале дах.

Як нам паведаміла прадаўшчыца «Руху» Марыся Мікось, плануе яна разам са светліцовым Уладзімірам Мінькам арганізаваць тэатральны калектыў. Справа добрая і патрэбная, але каб толькі не засталося ўсё на планаванні.

*

Дарога ад шашы да Гарадзіска будуецца ўжо два гады. І калі тут будуць будаваць такімі тэмпамі, як цяпер, да канца пабудовы пройдзе яшчэ пару гадоў. Сяляне з Гарадзіска не могуць давезці бульбы і збожжа да пунктаў скупкі, ламаюць вазы і мучаць коней. Але неяк дарожнік Сцяпан Каролька з дарожным аддзелам у Гайнаўцы і ГРН у Ласінцы замала паклапаціліся аб тым, каб нейкім спосабам рамонт дарогі быў закончаны ў гэтым годзе. (мх)

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: На загад кіраўніцтва прадпрыемства я выконваў працу ў нядзелі, але ў замен за гэта дзён вольных ад працы не атрымоўваў. Так працягвалася ад 1967 да 1969 года. Кіраўніцтва справу адцягвала, нягледзячы на тое, што я неаднаразова прыпамінаў. Цяпер я звярнуўся да раз'емчай камісіі, якая прызнала, што па даўнасці я не магу атрымаць заплаты. Я падаў у суд. Па-мойму, даўнасці не можа быць, паколькі я больш дзесяці раз дамагаўся заплаты, а кіраўніцтва прадпрыемства з-за сваёй несумленнасці мне не заплаціла. Дык як ёсць у сапраўднасці з гэтай даўнасцю?

АДКАЗ: Паколькі вы надалей працуеце на прадпрыемстве, якое вам не заплаціла, патрабаванне траціць моц з-за даўнасці год — пасля трох гадоў. Сам факт, што вы звярталіся асабіста да прадпрыемства з патрабаваннем заплаты, не мае ўплыву на даўнасць. Тэрмін даўнасці перарывае толькі выступленне з гэткім патрабаваннем ў раз'емчую камісію або ў суд. Такое самае значэнне мае прызнанне прадпрыемствам правільнасці вашага патрабавання і абяцанне яго ўрэгулявання. Зразумела, гэткае прызнанне можа мець значэнне, калі яно зложана асобай, маючай права выносіць рашэнні ад імя прадпрыемства, напрыклад, дырэктар. Калі вы зможаце даказаць, што дырэктар прадпрыемства прызнаў ваша патрабаванне, то тэрмін даўнасці будзе лічыцца ад даты гэтага прызнання.

## МУЖСКОГА РОДУ МАЛА

Адукацыя цяпер высока цэніцца. Ад яе залежыць лепшае месца працы і зарабатная плата. Таму многія цяпер вучацца завочна. Паўсюдна відаць вялікая колькасць навучэнцаў жаночага роду. Прыводжу тут два прыклады. У завочным эканамічным тэхнікуме ў Беластоку ў 5 класе на 65 асоб толькі 2 мужчыны. А ў завочным эканамічным тэхнікуме ЦЗСП у Беластоку на першым семестры толькі 5 мужчын, а жанчын амаль 70. Многа тут навучэнцаў з усіх паветаў.

## НІЗІННАЯ ЧОРНА-БЕЛАЯ

Нізінную чорна-белую пароду кароў (НЦБ) у паўднёва-ўсходніх паветах сяляне пачынаюць толькі цяпер разводзіць. Раней абавязвала нічым не абгрунтаваная раёнізацыя быдла, і ў гэтых паветах сельскагаспадарчая служба не дазваляла яе разводзіць. НЦБ — высакаякасная парода, высокамалочная і добра развіваецца таксама ў паўднёва-ўсходніх паветах. Найбольш быдла пароды НЦБ на Гайнаўшчыне разведзена ў вёсках Новае Беразова і Махнатае. (мх)




*Валя і Зіна з Бельска.* І іншыя Олі, Ніны і Марысі, якія за такімі подпісамі прысылаюць заяўкі на песні! Маем шмат заявак такіх чытачоў, якія не саромяцца падпісацца імем і прозвішчам, і таму выбачайце, што будзем выконваць менавіта іх просьбы. Мы ж змагаемся з ананімамі на ўсіх франтах.

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Dziewczęta" (radz.), „Dzień ostatni dzień pierwszy" (radz.), „Cierpkie wino" (radz.), „Kronika jednego dnia" (radz.), 7 — 12.

**Нараўка**
„Jutro przestaniesz umierać" (radz.), „Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), 8 — 12.

**Нарва**
„Rzut karny" (radz.), „Wiryneja" (radz.), 8 — 12.

**Чыжы**
„Co wieczór o 11-tej" (radz.), „Droga do przystani" (radz.), 8—12.

**Дубічы Царкоўныя**
„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Człowiek z przeszłością" (radz.), 8 —12.

**Арэшкава**
„Mroźny poranek" (radz.), „Taszkient miasto chleba" (radz.). 11—12.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Okres próbny" (radz.), „Spotkanie na przeprawie" (radz.), 8—12.

**Орля**
„Czarownica z bagien" (radz.), „Grzeszny anioł" (radz.), 8 — 12.

**Райск**
„Haszek i jego Szwejk" (radz.), „Żenia, Żenieczka i katiusza" (radz.),8 — 12.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Co wieczór o 11-tej" (radz.), „Pancernik Potiomkin" (radz.), „Ostatnia gra Karima" (radz.), 7 — 12

**Шудзялава**
„Kraksa" (radz.), „Berlin" (radz.), 8 — 12.

**Янаў**
„Tylko jedno życie" (radz.), 8 — 12.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Dom na rozstajach" (radz.), „Czekajcie na listy" (radz.), „Dziewczęta" (radz.), „Człowiek, który wątpi" (radz.), „Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 7 — 12.

**Мельнік**
„Kronika jednego dnia" (radz.), „Droga przez cmentarz" (radz.), „On nie chciał zabijać" (radz.), „Dom na rozstajach" (radz.), 7 — 12.

**Мілейчыцы**
„Ostatnia gra Karima" (radz.), „12 krzeseł" (radz.), „Haszek i jego Szwejk" (radz.), 7 — 12.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Okres próbny" (radz.), „W martwej pętli" (radz.), 8 — 12.

**Новы Двор**
„Jutro przestaniesz umierać" (radz.), „Pancernik Potiomkin" (radz.), 8 — 12.

Ніва

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6.811 T-3

